ГРОДНА
№19 (571),
24 кастрычніка 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Спыніся на хвіліну, чалавек…



wiadomosci.onet.pl

*Урачыстасць Усіх Святых і Успамін усіх памерлых вернікаў з'яўляюцца часам, калі свет памерлых судакранаецца са светам жывых.*

*на старонцы* **2**

## У Гудагаі развіталіся з а. Леанардам Цеханоўскім, кармэлітам босым



grodnensis.by

*Памерлы святар на працягу 21 года служыў у мясцовай парафіі і парафіі св. Андрэя Баболі ў Градоўшчыне.*

*на старонцы* **4**

## Як дапамагчы людзям пасля разводу?



pinterest.com

*Большасць разведзеных мае патрэбу ў эмацыянальным, псіхічным і духоўным аздараўленні.*

*на старонцы* **6**

## КС. ЖАРНАСЕК ПРА АДСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ НАВАМУЧАНІКАЎ: "ПАТРЭБЕН ЖЫВЫ КУЛЬТ І ЭНТУЗІЯСТЫ"



catholicnews.by

**Кардынал Свёнтэк некалькі разоў быў у камеры для смертнікаў, кс. Варанецкі 7 гадоў правёў у сталінскім лагеры ў Казахстане і працаваў на медных рудніках, а кс. Міхальскага збілі да смерці пасля св. Імшы, яшчэ ў арнаце… У савецкія часы Касцёл значна "пабагацеў" такімі гісторыямі. Аднак ніводзін з "пакалення, якое захавала веру", да сёння не быў абвешчаны благаслаўлёным. Разам з кс. Аляксандрам Жарнасекам разбіраемся ў прычынах гэтай гістарычнай несправядлівасці.**

*на старонцы* **3**

## ЖЫВЫМ – КАРЫСЦЬ, ПАМЕРЛЫМ – СУЦЯШЭННЕ



shutterstock.com

**Сёлета выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі выпусціла ў друк на рускай мове кнігу аўстрыйскай містычкі Марыі Сімы "Моё общение с душами из чистилища". Жанчына дзеліцца каштоўным досведам кантакту з памерлымі, што прыходзілі да яе з просьбамі аб дапамозе, у адказ на якія Марыя ахвяравала малітву і фізічныя пакуты.**

*на старонках* **4–5**

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

З моманту пакутніцкай смерці св. Стэфана, першага дыякана, незлічоная колькасць мучанікаў уласнай крывёю пацвердзіла сваю вернасць Хрысту. На іх крыві расце і развіваецца Касцёл, таму што кроў – гэта насенне Касцёла. У той жа час яны з'яўляюцца нашымі заступнікамі перад Божым тронам.

У ХХ стагоддзі пакутніцкую смерць зведалі тысячы хрысціян, якія сведчылі аб сваёй надзеі. Балючы досвед не абмінуў і нашы землі: кроў мучанікаў свайго часу не раз акрапіла Гродзеншчыну і ўвесь край.

Просьма нашых святых і бласлаўлёных мучанікаў аб заступніцтве перад Усявышнім Богам за наш Касцёл, за ўсіх жыхароў Беларусі і за цэлы свет. Няхай праз іх заступніцтва міласэрны Бог натхніць нас рабіць мудрыя выбары, а таксама няхай дасць шанс будаваць згоду і адзінства паміж людзьмі!



к. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**26 кастрычніка**
***Успамін бл. Цэліны Бажэнцкай.***
*Цэліна сумясціла ў сваёй біяграфіі сямейнае і рэлігійнае жыццё, стаўшы своеасаблівым феноменам у гісторыі Касцёла. Была жонкай, маці, бабуляй і манахіняй. Заснавала Кангрэгацыю Сясцёр Уваскрасення Пана Нашага Езуса Хрыста. Рэлківіі бласлаўлёнай знаходзяцца ў пяці месцах на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі: у касцёлах у Заневічах, Квасоўцы, Свіслачы, Малой Берастаўвіцы і ў капліцы ў Гудзевічах.*

**28 кастрычніка**
***Свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша.***
*Апостал Сымон меў прозвішча Зелот. Ён з'яўляецца апекуном фарбавальнікаў, ганчароў, далакопаў і зварщчыкаў. Юда, якога звалі таксама Тадэвушам, – гэта той апостал, які на Апошняй вячэры спытаў Хрыста, чаму Ён адкрыўся толькі сваім вучням, а не свету (параўн. Ян 14, 22). З'яўляецца заступнікам бальніц і медыцынскага персаналу.*

**1 лістапада**
***Урачыстасць Усіх Святых.***
*У гэты дзень мы ўспамінаем усіх тых, хто жыў да нас і, выконваючы ў сваім жыцці Божую волю, дасягнуў вечнага шчасця знаходзіцца з Богам на Нябёсах. Касцёл узгадвае не толькі афіцыйна прызнаных святых – тых, хто быў беатыфікаваны і кананізаваны, але і ўсіх памерлых вернікаў, якія ўжо дасягнулі збаўлення і знаходзяцца ў Небе. Бачыць у іх сваіх заступнікаў перад Богам і прыклады для пераймання.*

**2 лістапада**
***Успамін усіх памерлых вернікаў.***
*У літургіі гэтага дня Касцёл узгадвае ўсіх веруючых у Хрыста, якія ўжо адышлі з гэтага свету і цяпер знаходзяцца ў чысцы (вера ў існаванне чысца – адна з догмаў хрысціянскай веры). За набожнае наведванне могілак з 1 па 8 лістапада і адначасовую малітву за памерлых можна атрымаць поўны адпуст.*

**4 лістапада**
***Успамін св. Караля Барамея, біскупа.***
*Кароль Барамей быў асобай, якая аказала фундаментальны ўплыў на жыццё і форму Касцёла. Як біскуп ён руплііва рэалізаваў рашэнні Трыдэнцкага сабору. Палюбіўшы Хрыстовы Касцёл усім сэрцам, душой і з усіх сіл, ён заваёўваў для Збаўцы душы, дапамагаў бедным, клапаціўся аб каталіцкай адукацыі і манаскіх ордэнах. Ён быў князем Касцёла, які вёў суровае пакаяннае жыццё. У 1564 годзе адкрыў вышэйшую духоўную семінарыю (адну з першых у свеце). Яго шануюць як апекуна бібліятэкараў, інстытутаў катэхетычных ведаў, прабашчаў і выкладчыкаў семінарый.*

# СПЫНІСЯ НА ХВІЛІНУ, ЧАЛАВЕК…



radiocristiandad.org

працяг са с. 1

**Часу характэрна няўмольна ўцякаць, незваротна мінаць. З першымі замаразкамі, як і кожны год, надыходзіць лістапад, які адорвае нас сваёй задуменнасцю, смуткам, панурай, даждлівай аўрай, навязваючы настрой рэфлексіі на тэму мінучасці жыцця.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Як моцна гэтай знешняй атмасферы і клімату адпавядае свайм зместам літургічная ўрачыстасць Усіх Святых і Успамін усіх памерлых вернікаў. У няўмольнай памерлых судакранаецца са светам жывых.

Паглыбляючыся ў свет памерлых, мы ўваходзім у цішыню і вечны спакой тых, хто ўжо папярэднічаў нам

**Наведваючы магілы нашых памерлых сваякоў, давайце занясём ім сваю веру. Памолімся за іх Богу, ахвяруем у іх інтэнцыі св. Камунію, атрымаем поўны адпуст.**

гонцы часу гэтыя святы робяць своеасаблівы пралом, які спрыяе сціранню адрозненняў паміж тым, што ўжо было, што ёсць і што будзе нашай доляй.

Першыя дні лістапада нібы на імгненне прарываюць бар'ер таямніцы паміж жыццём і смерцю і адчувальна дазваляюць нам перажыць праўду веры ў еднасць святых, праўду пра Касцёл, дзе жывыя праходзяць побач з тымі, хто адышоў у вечнасць, хто ўжо спачывае на месцы зямнога адпачынку – могілках. Таму што гэтыя два літургічныя ўспаміны з'яўляюцца часам, калі свет у паломніцтве веры і жыцця да дому Бога Айца. А нашы спачылыя блізкія ўваходзяць у наша мітуслівае, напоўненае шумам штодзённасці і спешкі жыццё, ажыўляючы ўспаміны, якія, абуджаныя, напаўняюць нас сур'ёзнасцю, разважаннямі, роздумам, рэфлексіяй і цішынёй.

Наведваючы могілкі па жаданні ўласнага сэрца, схіляючыся над магіламі блізкіх, мы хочам без лішніх сведкаў, высокіх слоў і мудрых прамоў выказаць сваю простую ўдзячнасць тым, каго ўжо няма побач. У цішыні ападаючага восеньскага лісця, падмарожанага першымі замаразкамі, у цішыні палаючых лампад прагнем падзякаваць ім за дабро, якое перадалі нам, за каштоўнасці, якія адстойвалі з вялікай адданасцю, за веру, якую захоўвалі, за любоў, якой былі верныя, за надзею, якую не страцілі.

З такім настаўленнем мы хочам занурыцца ў свет памерлых, каб выразіць тую вялікую ўдзячнасць, якой часта не хапала з нашага боку, калі яны жылі сярод нас. Таму што мы былі занадта запрацаваныя і занятыя сваёй шэрай штодзённасцю. Таму што няўменне забываць, прабачаць і мірыцца паўплывала на нашы адносіны з імі. Таму што па-людску заўсёды ўпарта паўтаралі сабе, што яшчэ маем час і ўсё паспеем.

Наша ўдзячнасць не застаецца без адказу. Мёртвыя, якія, як мы верым, цешацца еднасцю святых, у цішыні і задуменні ўваходзяць у наша жыццё, каб нагадаць праўду аб тленнасці: бо прамінае постаць гэтага свету і людскога жыцця. Яны нагадваюць нам, што час плыве незваротна і яго трэба добра выкарыстоўваць.

Тыя, хто ўжо пакінуў сваю цялесную абалонку, скіроўваюць нам гэты напамін, гэты вокліч. Бо як часта мы забываемся пра асноўныя ісціны. А тады губляем належнае стаўленне да жыцця, якое незваротна праходзіць, да часу, які нам дадзены і які няўмольна прамінае без магчымасці вяртання.

Калі мы ў роздуме, маўчанні і рэфлексіі ўваходзім у свет тых, хто ўжо памёр, абуджаюцца ўспаміны, звязаныя з асобамі, якіх мы любілі, якія былі блізкія нашаму сэрцу і на працягу многіх гадоў з'яўляліся часткай нашага жыцця. І каб не ўпадаць у дэпрэсію з-за таго, што іх ужо няма ў гэтым свеце, успомнім словы адной з асноўных ісцін хрысціянскай веры: чалавечае жыццё змяняецца, але не заканчваецца. А Той, у Каго мы верым, з'яўляецца для нас "уваскрасеннем і жыццём", таму "калі нават і памром, будзем жыць" (параўн. Ян 11, 25).

Мы верым у Хрыста, верым таксама Хрысту, што з Ім усе ўваскрэснем, каб цешыцца

**Няхай могілкі стануць месцам, куды мы запросім Езуса. Куды прыйдзем не толькі з кветкамі ці свечкамі, але са словам, што "не ўсё страчана". Такую ўпэўненасць дае толькі вера. Дык давайце з верай прыйдзем на могілкі.**

паўнатою жыцця, якое Ён дае сваім вернікам, што добра выкарыстоўваюць час, укладзены ў іх рукі як найвялікшы Божы дар.

# КС. ЖАРНАСЕК ПРА АДСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІЦКІХ НАВАМУЧАНІКАЎ: “ПАТРЭБЕН ЖЫВЫ КУЛЬТ І ЭНТУЗІЯСТЫ”

працяг са с. 1

Арцём Ткачук

***– Калі не памыляюся, калонія, у якой Вы працавалі ў Оршы, была калісьці перасыльнай турмой перад высылкай у Сібір. Праз яе прайшло шмат святароў.***



Кс. Аляксандр Жарнасек (па цэнтры) – марыянін, пробашч парафіі ў Росіцы (Віцебская дыяцэзія). Вядомы беларускі прапаведнік і рэкалекцыяніст. Аўтар кнігі “Памілаваныя”

– Так, 12-ая аршанская калонія мэтанакіравана будавалася як перасыльная база НКУС. Калі не памыляюся, яе пачалі будаваць яшчэ ў 1944 годзе. Многія святары, уключаючы кардынала Свёнтка, прайшлі праз яе. У тым ліку марыяне кс. Паўлік і кс. Францкевіч. Ці яны хаця б бачылі яе, цяжка сказаць, бо, наколькі я разумею, іх проста прывозілі, грузілі ў вагоны і суткамі везлі ў Сібір. Пазней на аснове гэтай базы пабудавалі калонію. Таму да сёння старыя будынкі НКУС там ёсць.

***– Мы не маем ніводнага благаслаўлёнага, які б жыў на нашых землях пасля 1945 года. Хоць сведкаў веры і, што тут казаць, сапраўдных пакутнікаў не бракавала. Вядома, працэдура абвяшчэння блаславёным складаная. Аднак падаецца, што гэта ўсё-такі не галоўная прычына. Што Вы думаеце на гэты конт?***

– Трэба сказаць, што праца па абвяшчэнні каталіцкіх навамучанікаў вялася. Пры св. Яне Паўле II была ідэя зрабіць дзве групы блаславёных пакутнікаў – ахвяры II Сусветнай вайны, забітыя нямецкім рэжымам, і ахвяры савецкага перыяду, забітыя ўжо савецкім рэжымам. Першая група са 108-і асоб, у якую ўваходзілі і росіцкія мучанікі, дайшла да беатыфікацыі ў 1999 годзе. Другую па нейкай прычыне не давялі. Аднак працы вяліся. Гэтым займаўся па большай частцы Касцёл у Расіі. У нас ад марыянаў вызначалі тады адказных асоб. У гэтую групу ўключалі траіх марыянаў, сярод якіх было двое беларусаў – кс. Цікота і кс. Абрантовіч.

Так, кананізацыйны ці беатыфікацыйны працэс – гэта складаная справа. Не столькі нават у плане веры, колькі ў плане арганізацыі, а часам і ў плане фінансаў. Каб кагосьці прызналі святым, патрэбны вельмі жывы культ. І насамрэч у нас гэта не так развіта. Адна справа першыя хрысціяне – у іх культ быў сапраўды жывы, яны вопратку першых мучанікаў хавалі. У наш жа час няма такога.

***– А што яшчэ, акрамя адсутнасці культу, можа быць прычынай таго, што няма каталіцкіх навамучанікаў?***

– Тут яшчэ трэба адрозніваць працэдуры для тых, хто памёр сваёй смерцю, і мучанікаў за веру. Для другіх трэба толькі сабраць інфармацыю, што чалавек памёр за сваю веру. Калі ж гэтага няма, а чалавек проста жыў ды памёр у арэоле святасці, то трэба, каб адбыліся цуды, невытлумачальныя навукай. Як правіла, гэта аздараўленні. Таму нічога дзіўнага, што свецкіх блаславёных мала. Калі падобным чынам памірае манах, святар ці біскуп, то дыяцэзія ці ордэн даюць грошы на неабходную камісію. А за свецкага хто будзе так старацца? Таму атрымліваецца, што амаль усе святыя – альбо манахі, альбо ксяндзы. Хаця гэта, канешне ж, не так: свецкіх святых нашмат больш.

Як я сказаў, з пакутнікамі за веру прасцей. У выпадку нашых росіцкіх мучанікаў справай займалася кангрэгацыя марыянаў. Элементарна кажучы, калі б не было людзей, уцягнутых у працэс, то гэтыя мучанікі не былі б прызнаны блаславёнымі.

***– У Касцёле часта ўзгадваюць “пакаленне, якое захавала веру”. Але рэдка з гэтага агулу выдзяляюць нейкіх асоб. Калі каго і ўзгадваюць, то хутчэй у лакальным кантэксце. Чаму няма такога выдзялення?***

– Асабіста я крыху крытычны да падобнай тэмы. Зразумела, гэта людзі, якія не пахіснуліся. Аднак у многіх выпадках трэба сказаць, што згаданае пакаленне веру не змагло перадаць. Іх дзеці ў асноўным не ходзяць у касцёл, ім гэтага не патрэбна.

Чаму няма выдзялення нейкіх значных асоб? Гэта, хутчэй за ўсё, былі людзі, якія трымалі ключы ад касцёла, высылалі пачкі ксяндзам у лагеры, распаўсюджвалі перапісаныя ад рукі катэхізісы. Аднак і яны ўжо таксама ў большасці сваёй памерлі. Каб кагосьці там выдзеліць, некаму трэба гэтым заняцца. Самі сябе яны не выдзеляць. Патрэбны энтузіясты, якія рухалі б гэтую тэму.

***– Чаму “пакаленне, якое захавала веру”, так павярхоўна ўпісана ў памяць беларускага Касцёла? Ёсць, магчыма, лічаныя памятныя табліцы, кнігі, нейкія дні памяці. Аднак існуе пачуцце, што разам са старэйшым пакаленнем сыдзе і памяць пра яго.***

– Я думаю, гэта можа быць звязана з нашай ментальнасцю. Ці ўвогуле беларусы цэняць гісторыю? Не падобна на тое. Гэта і пытанне адносна нашай свядомасці, пасіўнасці, абыякавасці да мовы – думаю, усё можна смела ставіць у адзін шэраг. Калі няма памяці пра сваю гісторыю, то і пра людзей яе не будзе. Гэтага не зробіш на сілу, да гэтага можна толькі даспець.

***– Вы ведалі кс. Антонія Лася, марыяніна, які пачынаў справу санктуарыя ў Росіцы. Пасля шматгадовай працы ў Польшчы ён у 1988 годзе прыязджае ў Друю і пачынае паслугу з адраджэння памяці пра росіцкіх мучанікаў. Чаму?***

– Гэта якраз прыклад такіх энтузіястаў, пра якіх я кажу. Часам дастаткова адной асобы. Канешне, ён быў святаром, у яго былі большыя ўплывы, чым у простага чалавека. Аднак дакладна ён быў энтузіястам, якому было важна ўзняць гэтую справу.

Кс. Антоній паходзіў з Беларусі і вучыўся ў даваеннай Друйскай гімназіі, пасля ўступіў у Кангрэгацыю Ксяндзоў Марыянаў. Ён асабіста ведаў блаславёных мучанікаў і быў патрыётам. Калі стала магчымым вяртанне ў Беларусь, адразу вярнуўся. Стаў шукаць інфармацыю пра Друю, ладзіў сустрэчы былых выпускнікоў, збіраў іх сведчанні – гэта цэлыя архівы, якія назапашваліся гадамі. На фоне гэтага ўсяго ён падняў і тэму Росіцы. Ездзіў туды, апекаваўся касцёлам, тым больш, што Друя ад Росіцы недалёка.



Кс. Адам Станкевіч памёр у лагеры 4 снежня 1949 г. Органы дзяржбяспекі ў Акце аб смерці запісалі, што святар памёр у Тайшэтлягу “ад ажырэння сэрца”. Аднак, на думку гісторыка Анатоля Сідарэвіча, хутчэй за ўсё, пад падобнымі эўфемізмамі хаваецца сапраўдная прычына смерці – расстрэл.

У нейкім сэнсе кс. Лось быў сведкам усяго працэсу. Я амаль перакананы, што калі б не ён, то, магчыма, росіцкія мучанікі не былі б беатыфікаваныя. Нягледзячы на святасць, кс. Кашыра і кс. Ляшчэвіч афіцыйна маглі б не быць прызнаныя блаславёнымі. Камусьці трэба было сабраць усе матэрыялы. Кс. Антоній прысвяціў гэтаму гады.

Нельга таксама сказаць, што толькі кс. Лось гэтым займаўся: былі людзі, якіх цікавала Росіца. У свой час мая мама была вельмі зацікаўлена гэтай тэмай, але адназначна, што ільвіную долю да гэтага прыклаў ён.

***– Я буду мець рацыю, калі скажу, што выбудоўваючы душпастырскія прыярытэты апошніх трыццаці гадоў, мы адкладвалі памяць на потым? Ці ўвогуле пра яе не думалі.***

– Цяжка сказаць, што мы зусім не ўкладваліся ў гісторыю – нібыта думалі і рабілі. Нельга сказаць, што гэтыя тэмы пасіўна ад нас адышлі. Разам з тым мне думаецца, што калі душпастырства канцэнтравалася толькі на будаўніцтве, то гэта быў промах. То-бок, мы так укладваліся ў сцэны, што ўвогуле праваронілі людзей. Улічваючы, што старое пакаленне не змагло толкам перадаць веру, ды і не мелі чаго там зашмат перадаваць, і не ведалі, як гэта рабіць…

Ці трэба было нам насілу падымаць гэтую памяць? Я думаю, усё ўзаемна звязана. Мы заняліся больш гаспадарчымі справамі: адваёўвалі касцёлы, будавалі, рамантавалі – і менш з людзьмі займаліся. Памяць сама сабой адыходзіць у такой сітуацыі. Калі няма кантакту з людзьмі, дык навошта тады памяць.

Я асцярожна разважаю на гэтую тэму, таму што сам пісаў сваю дыпломную працу па гісторыі Касцёла. Мяне гэта вельмі цікавіла. Пасля, шчыра кажучы, я трошкі астыў да яе. З аднаго боку, усё гэта важна. З другога – ёсць нейкая залатая сярэдзіна: нельга займацца толькі гісторыяй без жывога чалавека. Усё павінна ісці комплексна.

Гэта, калі можна так параўнаць, як апосталы, якія ведалі, хто такі Хрыстос, і шчыра Яго любілі. Ім трэба было захаваць сведчанні, перадаць іх. Так узнікалі Евангеллі, Пасланні. Трэба было зафіксаваць любоў да Яго. Гісторыя не нараджаецца, як штосьці штучнае. Нельга сказаць: “Давайце любіць гісторыю”. Па мне, гэта крыху ні аб чым.

***– А што б беларускаму Касцёлу магло даць абвяшчэнне блаславёнымі некалькіх навамучанікаў?***

– Добрае пытанне. Я некалі здзівіўся, калі даведаўся, што ў савецкія часы былі лагеры толькі для веруючых. Нават некалі сустрэўся з маёрам, які быў там супрацоўнікам калоніі і пасля там жа перажыў навяртанне. У асноўным, у тых лагерах сядзелі пратэстанты – пяцідзесятнікі, баптысты. Канешне, не пастары, а людзі свецкія. Чаму яны сядзелі? Бо чыталі Біблію, не ўтойвалі гэта і, наколькі маглі, евангелізавалі людзей ды прапаведавалі. У нас ганімымі за веру былі ў асноўным ксяндзы. Часам манахіні. Свецкіх жа вельмі мала. У нас быў пасіўны падыход свецкіх.

Я заўсёды лічыў важным мець асабістыя адносіны з Хрыстом, заставацца Яму верным. І тут чую прыклад людзей, якія засталіся вернымі да канца. Іх ніхто не зламаў. Гэта натхняе. Такі прыклад працэ – у такіх выпадках трэба памятныя дошкі вешаць, пра такіх людзей трэба расказваць. Тады гэта мае сэнс.

Таму, вяртаючыся да гераізму, – ён павінен быць жывым. У нас жа пасіўнасць вернікаў проста вялізная. Нягледзячы на тое, што яны стаяць у Касцёле. Калі б сёння былі ганенні – разляцеліся б мы як мае быць. Нічога б тут не насабіралася. Гэта маё меркаванне. З такой пасіўнасцю нас гераізм натхняць не будзе. Ён натхняе тады, калі сам да яго імкнешся. Калі людзі не будуць імкнуцца, то і дошкі не дапамогуць.



У снежні 1950 г. адбылася апошняя экзекуцыя над святаром. У касцёл уляцелі маладыя людзі. Яны павалілі святара ля алтара і пачалі збіваць жалезнымі пруткамі. Нехта з вернікаў убег у касцёл. Ксёндз ляжаў амаль непрытомны. Спадарыня Ванда Шаўцова ўспамінае, што ў яго быў моцна збіты жывот. “Паднялі арнат, а там чырвона. Міхальскага пасадзілі ў крэсла. Пачакаўшы, перанеслі ў плябанію. Вішнеўцы пачалі збіраць каля яе і маліцца”. Кананне доўжылася пару дзён. Смерць наступіла 25 снежня.

АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

## У Ватыкане адбылася прэзентацыя выдання пра Дастаеўскага

Прайшла ватыканская прэзентацыя італьянскага выдання зборніка лістоў Уладзіміра Салаўёва на тэму рускага пісьменніка і філосафа Фёдара Дастаеўскага.

“Героі Дастаеўскага – гэта штосьці большае, чым толькі геніяльная мастацкая і літаратурная творчасць. Учора і сёння яны сведчаць аб прыгажосці і магутнай моцы хрысціянскай веры: веры пакрыўджаных і прыніжаных, адкінутых і праследаваных – гэтак званых найгоршых, тых, якія пазналі бездань дабра і зла”, – сказаў кардынал П’етра Паралін, выступаючы перад прысутнымі на культурным мерапрыемстве.

Дзяржсакратар нагадаў, што папа Францішак часта спасылаецца на Дастаеўскага – пісьменніка, які, на думку Папы, “змог глыбока прачытаць чалавечую душу” і паказаў “моц адзінай сапраўднай любові, любові Хрыста, якая дае паранenаму чалавецтву тое, што яму патрэбна”.

## Кардынал Паралін узначаліць дэлегацыю Святога Пасаду на COP26

Кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы паведаміў аб удзеле Святога Пасаду ў працы 26-ай Канферэнцыі бакоў Рамачнай канвенцыі ААН аб зменах клімату (COP26).

На форум прыбудзе дэлегацыя Ватыкана пад кіраўніцтвам кардынала П’етра Параліна, Дзяржаўнага сакратара Яго Святасці Папы.

Кліматычны саміт будзе праходзіць з 31 кастрычніка па 12 лістапада 2021 года ў шатландскім горадзе Глазга. На ім збяруцца каля 200 сусветных лідараў, каб абнавіць планы па скарачэнні парніковых выкідаў у барацьбе з глабальным пацяпленнем.

## Новы кіраўнік Службы папскіх літургічных цэлебрацый

11 кастрычніка 2021 года Святы Айцец прызначыў новага старшыню Службы папскіх літургічных цэлебрацый і кіраўніка Папскай музычнай капэлы. Ім стаў 56-гадовы мансеньёр Дыега Джавані Равэлі.

У 1998 годзе святар пачаў служыць у Апостальскай эламазінарыі ў Ватыкане, дзе ў 2013 годзе стаў кіраўніком аддзела. Пасля супрацоўніцтва са Службай папскіх літургічных цэлебрацый у якасці памочніка цырымоніймайстра, у 2006 годзе ён быў прызначаны Папскім цырымоніймайстрам.

Мансеньёр Дыега Джавані Равэлі змяніў на пасадзе старшыні Службы папскіх літургічных цэлебрацый і кіраўніка Папскай музычнай капэлы біскупа Гвіда Марыні, які 29 жніўня 2021 года быў прызначаны пастырам дыяцэзіі Тартона ў Генуэзскай мітраполіі.

## Малітоўныя інтэнцыі на лістапад

### паўсюдная

Молімся, каб асобы, якія перажываюць дэпрэсію ці знясіленне, ва ўсіх знаходзілі падтрымку і святло, што адкрываюць на жыццё.

### дыяцэзіяльная

Молімся, каб Пан благаславіў дабрадзеяў і ахвяравальнікаў Касцёла.

# У ГУДАГАІ РАЗВІТАЛІСЯ З А. ЛЕАНАРДАМ ЦЕХАНОЎСКІМ, КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ



grodnensis.by



*А. Леанард Цеханоўскі нарадзіўся 6 лістапада 1957 года ў Браньску на тэрыторыі сённяшняй Драгічынскай дыяцэзіі (Польшча). Пасля заканчэння школы паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Ломжы, дзе прайшоў двухгадовы курс філасофіі і адначасова тэалогіі (1976–1979).*

*Распазнаўшы ў сабе пакліканне, у красавіку 1984 года ўступіў у ордэн кармэлітаў босых. Пасля праходжання навіцыяту 8 красавіка 1985 года прынёс першыя манаскія абяцанні. Далейшае вывучэнне тэалогіі праходзіў у Вышэйшай духоўнай семінарыі кармэлітаў босых у Кракаве. 19 сакавіка 1988 года прынёс вечныя манаскія абяцанні і прыняў пасвячэнне дыяканату, а 1 чэрвеня таго ж года – прэзбітэрскае пасвячэнне.*

*У 1988–1989 гадах быў катэхетам у Кракаве, у 1989–1990 гадах – у Клюшкоўцы. Наступныя 6 гадоў працаваў у Вроцлаве, дзе быў катэхетам, вікарыем парафіі і эканомам кляштара. У 1996 годзе стаў настаяцелем новай фундацыі кармэлітаў босых у Гажэндзеі, дзе пэўны час выконваў таксама функцыі магістра пастулантаў.*

*У красавіку 2001 года выказаў настаяцелям жаданне паехаць у Беларусь. Служыў у Гудагаі з таго часу да смерці.*

працяг са с. 1

**16 кастрычніка ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі (дэканат Астравец) развіталіся са спачылым а. Леанардам Цеханоўскім OCD. Памерлы святар на працягу 21 года служыў у мясцовай парафіі і парафіі св. Андрэя Баболі ў Градоўшчыне.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

На Эўхарыстыі, падчас якой дзякавалі Пану Богу за дар святара, яго адданае і вернае служэнне, сабраліся шматлікія вернікі з парафіі і з іншых мясцовасцей. Усе дзякавалі Богу за тое, што мелі магчымасць сустрэць а. Леанарда, які сваім простым і сціплым ладам жыцця змог захапіць Богам іншых людзей.

Св. Імшу ў намеры памерлага кармэліта ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у канцэлебрацыі з біскупам Казімірам Велікасельцам, біскупам Юрыем Касабуцкім, а таксама дыяцэзіяльнымі святарамі і кармэлітамі з усіх манаскіх супольнасцей нашай краіны.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ШАТЛАНДЫЯ.** Каталіцкі Касцёл у Шатландыі рыхтуецца прыняць папу Францішка і сусветных лідараў на саміце ААН па клімаце. Ён будзе праходзіць у Глазга з 31 кастрычніка па 12 лістапада 2021 года. Падчас правядзення форуму плануюцца малітвы, чуванні, сустрэчы для моладзі і экуменічныя ініцыятывы. Касцёльны аргкамітэт ініцыятыў, звязаных з COP26, уключыў 10 асоб: спецыялістаў у галіне літургіі, музыкі, лагістыкі, медыя. Яго ўзначаліў ардынарый дыяцэзіі Галаўэй біскуп Уільям Нолан. На COP26 яны маюць намер падтрымаць папскі заклік выпрацаваць пагадненне, якое выратуе планету.

**ІТАЛІЯ.** Мітрапаліт Неапаля арцыбіскуп Дамэніко Баталья, спаслаўся на абвастрэнне вайны паміж бандамі ў горадзе. "Яны забіваюць Неапаль! Сляды крыві, пакінутыя ў апошнія дні на некалькіх вуліцах і ў прыгарадах, не могуць нікога пакінуць абыякавым", – напісаў іерарх. Нядаўна ў Неапалі адбыліся крывавыя сутычкі паміж канкуруючымі кланамі Каморы. Паліцыя зафіксавала 12 нападаў і выбухаў, у асноўным у неапальскім прыгарадзе Пантычэлі. Некалькі чалавек загінулі. Апошнім з іх быў 23-гадовы мужчына, забіты сямю выстраламі з пісталета з блізкай адлегласці.

**АРМЕНІЯ.** Падчас візіту Прэзідэнта Арменіі Армэна Саркісяна да папы Францішка было прынята рашэнне аб адкрыцці ў гэтай краіне Апостальскай нунцыятуры. Прэс-служба кіраўніка дзяржавы паведаміла, што падчас сустрэчы з Дзяржсакратаром кардыналам П'етра Паралінам Саркісян з задавальненнем прыняў рашэнне папы Францішка заснаваць Апостальскую нунцыятуру, якая неўзабаве адкрыецца ў Ерэване. Гэта доказвае "зацікаўленасць абодвух бакоў у развіцці адносін паміж Арменіяй і Святым Пасадам". Да гэтага часу Апостальскі нунцый у Арменіі знаходзіўся ў Апостальскай нунцыятуры ў сталіцы Грузіі, Тбілісі. З 2018 года нунцыем у Арменіі і Грузіі быў арцыбіскуп Хасэ Авеліна Бетанкур.

**ФРАНЦЫЯ.** Епіскапат Францыі падкрэсліў рашучасць намаганняў усіх біскупаў, а разам з імі і ўсіх католікаў, каб абарона дзяцей стала абсалютным прыярытэтам. Старшыня Канферэнцыі Біскупаў, арцыбіскуп Эрык дэ Мулен-Бафор сустрэўся з Міністрам унутраных спраў краіны Жэральдам Дарманэнам. У ходзе сустрэчы было падкрэслена, што "маштаб сексуальнага насілля і агрэсіі ў адносінах да непаўналетніх, прыведзены ў Рапарце, патрабуе ад Касцёла ў гэтым кантэксце нанава прааналізаваць свае практыкі". Епіскапат Францыі будзе намагацца, каб абарона дзяцей была на першым месцы.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ЖЫВЫМ – КАРЫСЦЬ, ПАМЕРЛЫМ – СУЦЯШЭННЕ



jesusmariasite.org

*Марыя Сіма (1915–2004), якая мела ласку кантакту з чыстцовымі душамі*

працяг са с. 1

**Часам душы былі настолькі рэалістычнымі, што ў вачах жанчыны цалкам сціралася мяжа паміж духам і чалавекам з плоці і крыві. Сутнасць прыватных аб'яўленняў Марыі Сімы і нашу ролю ў справе збаўлення набліжае дырэктар дыяцэзіяльнага выдавецтва кс. Тадэвуш Крыштопік.**

*Ангеліна Марцішэўская*

***– Ксёндз Тадэвуш, Марыя Сіма сцвярджала, што кожнай чысцовай душы быў патрэбны дазвол Бога, каб магчы звярнуцца да яе. Часам жанчына прымала душы штодня і штоноч, выконваючы іх просьбы, і дапамагла шматлікім душам дасягнуць Неба. Калі гэтая практыка настолькі плённая, чаму Бог не дазваляе большай колькасці памерлых звяртацца да большай колькасці жывых?***

– Касцёл не абавязвае нас верыць у прыватныя аб'яўленні, але дазваляе імі карыстацца для ўзмацнення сваёй веры, калі яны не супярэчаць Божаму Аб'яўленню і вучэнню Касцёла. Марыя Сіма жыла ў Зонтаг у Аўстрыі ў 1915–2004 гадах. Яе візіі дрyкуюцца з дазволу касцёльных улад, пачынаючы з 1968 года. Многія католікі дзякуючы яе сведчанням пачалі больш маліцца за памерлых. Таму Выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі, жадаючы павялічыць свядомасць неабходнасці малітвы за памерлых сярод нашых вернікаў, надрукавала кнігу бачанняў візіянеркі. Аб'яўленні Марыі Сіме з'яўляюцца прыватнымі візіямі. Яна перажывала сустрэчы з чысцовымі душамі згодна са сваімі магчымасцямі і чалавечымі абмежаваннямі. Дзякуючы яе веры і ахвярнай гатоўнасці дапамагаць душам хутчэй прайсці належнае ім ачышчэнне, Бог дазволіў канкрэтным асобам звяртацца да жанчыны з просьбамі аб дапамозе. Чаму менавіта гэтыя асобы, а не іншыя прыходзілі да яе – гэта справа Божага Провіду. Чаму сёння душы памерлых не прыходзяць з просьбамі да жывых? Відавочна,

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



Алена Майсюк

# СЕМ СМЯРОТНЫХ ГРАХОЎ, АБО ЖАРСЦІ, ШТО КІПЯЦЬ І ПАСЛЯ СМЕРЦІ



wikipedia.org

**Смерць – гэта не канец жыцця. Асоба жыве вечна, калі пра яе памятаюць, калі карыстаюцца пладамі яе працы. Але парадокс у тым, што нават пасля фізічнай смерці чалавек застаецца прычынай фізічнага атручвання прасторы. Яго сваякі працягваюць забруджваць Зямлю шкоднымі для навакольнага асяроддзя вянкамі, штучнымі кветкамі, аднаразовымі лампадкамі і велізарнымі помнікамі, якія празмерна награваюць атмасферу.**

**Смяротныя грахі чалавецтва могуць праследаваць асобу і пасля яе адыходу ў жыццё вечнае, выклікаючы роспач душы. І задача блізкіх – не падсілкоўваць дрэва гэтага крыжа.**

### ПЫХА

Прайдзіце па могілках, паглядзіце на сціплыя пахаванні. Ці так мала гэтыя людзі зрабілі пры жыцці? Можа, яны зразумелі абсурднасць самаўзвышэння і пакінулі толькі мінімальны след? Ёсць і тыя, чый прах проста развеялі і хто застаўся ў памяці без помніка і мноства пластыкавых вырабаў.

Меранне пафаснасцю помнікаў, убраннем магіл – гэта яшчэ адно праяўленне пыхі.

### ХЦІВАСЦЬ

Як утаймаваць празмерныя жаданні? Маліцца за нябожчыка! Што душы, якая пакінула цела, будзе ад груды штучных кветак? У кожнай кветкі ёсць час распускацца і час вянуць. Упрыгожвайце прастору шматгадовымі кветкамі для розных сезонаў, а зімой няхай сухацветы, у якіх шмат насення, паслужаць ежай для птушак.

### ЗАЙЗДРАСЦЬ

Адзін са спосабаў праявіць зайздрасць на могілках – з апошніх сіл імкнуцца наблізіцца да іншых па ўбранні, памеры і маштабнасці надмагілляў, аддаючы для гэтага вялізныя сумы, што маглі б паслужыць жывым людзям. Клопат пра жывых – гэта і ёсць праяўленне любові да бліжняга. Ён важнейшы, чым імкненне дагадзіць грамадскай думцы ў клопаце пра месцы пахавання.

### ГНЕЎ

Толькі жывы можа надзяліць тых, хто адышоў у іншы свет, здольнасцю быць незадаволенымі чымсьці на могілках. Людзі прыходзяць на могілкі толькі па сваім унутраным жаданні. І калі яны гэтага не зробяць, памерлыя не будуць злавацца. Гэты акт узаемадзеяння з душамі можа адбывацца ў любым месцы планеты і не прывязаны да магілы. Пра родных можна памятаць па-за пэўнымі месцамі і падзеямі.

### РАСПУСТА

У чым патрэба хаваць усю сям'ю побач? Ці ёсць адрозненне ў любові да ўсіх людзей і да свайго колішняга партнёра, з якім заключыўшы шлюб? Жаданне быць пахаванымі побач прыводзіць да куплі месца на могілках яшчэ пры жыцці. Гэта спараджае яшчэ больш праблем, на гэтым будуецца бізнес. Пакуль мы жывыя, трэба імкнуцца да міру ў душы, а што будзе з прахам пасля адыходу ў лепшы свет – гэта ўжо не наша воля.

### АБЖОРСТВА

Узгадваюць сваякі і гэты грэх, таму наліваюць, пакідаюць ежу – хоць і сімвалічна – нават для памерлага. А душа зусім іншым сілкуецца. І пры жыцці чалавеку не смак і водар важнейшыя, а любоў і думкі, з якімі была прыгатавана страва. Падсілкоўваннем для душы памерлага могуць быць толькі дзеі, якія засталіся пасля яго адыходу ў лепшы свет. Успамінайце, што было зроблена пры жыцці, дзякуйце, расказвайце, каму гэта прыносіць карысць. Тым і напаўняецца душа, якую ўспамінаеце.

### РОСПАЧ

Прачытайце маркотныя надпісы на помніках, паглядзіце на мітусню падчас пахавання, на высілкі, каб прасачыць за ўбраннем магілы. А слёзы адчаю і воклічы "на каго ж ты нас пакінуў"?.. Ці гэтага хоча душа памерлага? Пакідаючы свет, любы чалавек вызваляецца. Парадуйцеся аб яго вызваленні, ідзіце далей, дапамагайце душы ўсцешыцца новаму дому, які зусім не ў магіле, а далёка ад гэтага матэрыяльнага свету.

***"Навакольнае асяроддзе ўпісваецца ў логіку атрымання. Яно – пазыка, якую атрымлівае кожнае пакаленне і якую абавязана перадаць наступнаму пакаленню"*** *(папа Францішак, "Laudato si'", п. 159).*

Гэтыя словы як напамін – што пакінем пасля сябе дзецям? Век чалавека кароткі. А горы і прасторы смецця вялікія. Узяць хаця б велізарныя тэрыторыі, якія выкарыстоўваюць для пахавання тых, хто ўжо не высадзіць дрэвы, не зможа есці і піць, апранацца.

Мы першыя зацікаўлены, каб перадаць чалавецтву, якое прыйдзе пасля нас, планету, прыдатную для жылля. Гэта драма для нас саміх, паколькі яна ставіць пад пытанне сэнс нашага прыходу на гэтую зямлю.

***"Больш нельга з пагардай і іроніяй ставіцца да катастрафічных прагнозаў. Мы можам пакінуць наступным пакаленням занадта шмат руін, пустынь і смецця"*** *(папа Францішак, "Laudato si'", п. 161).*

у сучасных людзей Бог не знаходзіць патрэбнай веры і гатоўнасці ахвяраваць свае цярпенні за памерлых.

***– "Існуе столькі ж відаў чысцца, колькі чыстцовых душ", – адзначае Марыя Сіма пасля кантакту з памерлымі. Як гэта растлумачыць?***

– Кожная душа ў чысцы мае свой асабісты чысцец у тым сэнсе, што кожны чалавек – гэта непаўторная індывідуальнасць, якая мае свае добрыя ўчынкі і свае асабістыя грахі, пра цяжар якіх ведае толькі ён сам і Пан Бог. Таму кожная душа індывідуальна перажывае свой чысцец. Згодна з навукай Касцёла, чысцец – гэта не столькі месца ачышчэння, колькі стан ачышчэння. Бо нават у шпіталі, месцы выздараўлення, кожны хворы мае свой асабісты стан хваробы і болю, сваё асабістае стаўленне да немачы. Кожны свае пакуты перажывае індывідуальна (хтосьці з надзеяй і малітвай, хтосьці нецярпліва або нават са злосцю), і кожны мае сваё асабістае прагненне ацалення.

***– "Самай каштоўнай дапамогай з'яўляецца ахвяра св. Імшы. Але роўна настолькі, наколькі чалавек цаніў яе пры жыцці", – чарговая цытата з кнігі. Атрымліваецца, кожная св. Імша, ахвяраваная ў інтэнцыі чыстцовай душы, якая не была веруючай або легкадумна ставілася да практыкі веры, з'яўляецца марнай дапамогай? Як тады найбольш эфектыўна дапамагаць такім душам?***

– Св. Імша – гэта не нейкі магічны абрад, а асабістая сустрэча з уваскрослым Хрыстом у сакраманце веры, дзе Ён істотна прысутнічае. Гэта жывыя адносіны з нашым Збаўцам. Мы настолькі любім Хрыста, наколькі любім Яго у св. Камуніі. І гэтае сяброўства з Езусам на зямлі або адчужэнне ў адносінах да Яго мы пераносім у вечнасць, у чысцец. Душам у чысцы дапамагае не "нешта", а "Нехта" – Хрыстос, які ёсць Ахвяра за нашы грахі. А паколькі мы не можам ведаць, што адбываецца паміж нашымі памерлымі ў чысцы і Хрыстом, павінны часта ахвяраваць за іх св. Імшу, св. Камунію і малітвы, а таксама спадзявацца на Божую міласэрнасць, а не займацца бясплоднымі даследаваннямі. Марыя Сіма перадала гэтую інфармацыю для нас, жывых, каб мы задумаліся, наколькі цэнім св. Імшу і св. Камунію.

***– Абапіраючыся на ўласны досвед, візіянерка запэўнівае, што ахвяраваныя пакуты дапамагаюць чыстцовым душам больш, чым малітва. Як гэта выглядае на практыцы? Напрыклад, калі нам штосьці пачало балець (нага, галава – што заўгодна), трэба лячыцца і можна аднachасова ахвяраваць гэты боль у інтэнцыі чыстцовых душ?***

– Пакуты, ахвяраваныя Богу, маюць вялікую вартасць, бо яны больш нам каштуюць. Вусную малітву адгаварыць няцяжка – трэба толькі ахвяраваць час і ўважліва прамаўляць малітоўныя формулы. Пакуты, каб іх годна перанесці, патрабуюць ад нас цярплівасці, надзеі, лагоднасці сэрца. Пан Езус шмат маліўся ў сваім жыцці, але адкупленне чалавецтва пажадаў учыніць праз свае балесныя Пакуты і Смерць на крыжы. Мы можам ахвяраваць за душы ў чысцы фізічныя пакуты, а таксама псіхічныя і духоўныя цярпенні (пачуццё крыўды, страх, пачуццё адзіноты і пакінутасці, духоўную сухасць). Вядома, што адначасова трэба лячыцца і шукаць выхад з цяжкага становішча.

***– Апісваючы досвед кантакту з памерлымі, Марыя Сіма ўзгадвае, што душа з самым "цяжкім" чысцам была пры жыцці жанчынай, якая знаходзілася ў доўгім канфлікце са сваячкай і не хацела прымірыцца нават перад смерцю. У той жа час сярод прасіцеляў візіянеркі былі і злодзеі, і багахульнікі, і забойцы. Чаму, на Вашу думку, менавіта такая правіна патрабавала найбольшага адкуплення?***

– Езус наказаў так маліцца: "І адпусці нам правіны нашы, як і мы адпускаем вінаватым нашым". Прыпомнім прыпавесць Езуса пра бязлітаснага даўжніка, які быў дзіўна несправядлівы – сам быў вінен дзесяць тысяч талантаў (320 тон золата), а не хацеў прабачыць сябру сто дынараў (сто дзённых заробкаў). Калі мы не хочам прабачаць, то выключаем гэтага чалавека з нашай любові і тым самым закрываем сваё сэрца на Божае прабачэнне. Любоў да Бога і бліжняга – першая і галоўная запаведзь. Правіннасці супраць любові да чалавека найбольш для нас адчувальныя, таму што людзі заўсёды побач і пастаянна пра гэта адно аднаму прыпамінаюць: ці то словам, ці то іншым выразам пакрыўджанасці. Усе мы ўсведамляем, што з'яўляемся грэшнымі і мала любім людзей, якія знаходзяцца побач, таму самі патрабуем міласэрнасці. У гэтым кантэксце нежаданне прабачыць і прымірыцца з другім чалавекам з'яўляецца супрацьлегласцю любові і справядлівасці.

***– "Калі вы сутыкаецеся з вялікімі праблемамі, звярніцеся да душ з чысцца. Яны ўдзячныя і цудоўныя памагатыя", – піша Марыя Сіма. Якім чынам яны могуць нам дапамагчы, калі не з'яўляюцца блаславёнымі і святымі?***

– Згодна з навукай Касцёла, душы ў чысцы – гэта душы збаўленыя. Яны любяць Бога і ўсімі сіламі імкнуцца да Яго. Яны абавязкова будуць у небе са святымі, толькі павінны прайсці ачышчэнне. Яны не могуць маліцца самі за сябе, але могуць маліцца за нас. Таму мы можам прасіць іх аб малітоўнай дапамозе, так як святых, якія ўжо знаходзяцца ў небе.

### ДАПАМОГА ЧЫСТЦОВЫМ ДУШАМ ПАВОДЛЕ МАРЫІ СІМЫ:

*1) Святая Імша.*

***2) Другім найбольш дзейсным сродкам дапамогі чыстцовым душам з'яўляецца малітва Ружанцам.***

***3) Вялікую палёгку ім прыносіць ахвяра духоўных і фізічных пакут.***

***4) Крыжовы шлях.***

***5) Бясцэннымі з'яўляюцца індульгенцыі (адпусты). Хто пры жыцці часта ахвяруе адпусты за душы з чысцца, таксама ў момант сваёй смерці хутчэй атрымае поўнае адпушчэнне грахоў.***

***6) Міласціна, добрыя ўчынкі і грашовыя ахвяраванні на святыя місіі.***

***7) Запаленыя свечкі як акт увагі і любові. Таксама яны асвятляюць цемру душ у чысцы.***

***8) Акрапленне святой вадой адвольных месцаў у інтэнцыі чыстцовых душ.***

***Набыць кнігу можна ў магазіне пры курыі Гродзенскай дыяцэзіі па адрасе вул. К. Маркса, 4.***

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ДАПАМАГЧЫ ЛЮДЗЯМ ПАСЛЯ РАЗВОДУ?



**Кс. Павел Салабуда,** *псіхолаг*

працяг са с. 1

У самым пачатку я хацеў бы нагадаць і падкрэсліць, што ў Касцёле няма разводаў, але – што важна – ёсць тыя, хто перажыў развод, і Касцёл іх не адштурхоўвае. Большасць людзей пасля разводу застаюцца параненымі, часта яны не здольны перажыць разбурэнне адносін і толькі праз некаторы час знаходзяць пэўны баланс, перабудоўваючы сваё жыццё. Што зрабіць, каб гэтая перабудова не была трагедыяй, а дапамагла як мага хутчэй зрабіць высновы і дазволіла далей развівацца духоўна?

Людзей, якія перажылі развод, можна падзяліць на дзве групы: тыя, хто ніколі не зможа ўзнавіць здароўе цалкам (будзе паранены, не здолее вярнуцца да нармальнага жыцця), і тыя, каму ўдасца з гэтым справіцца. Большасць разведзеных мае патрэбу ў эмацыянальным, псіхічным і духоўным аздараўленні. А для гэтага неабходны час. І чым большае пачуццё страты, тым больш часу патрабуецца, каб вярнуць раўнавагу.

Мы ўсе розныя, таму няма аднолькавага шляху да выздараўлення. Перш за ўсё, трэба адкідваць думкі кшталту “калі скончылася маё сужэнства, значыць, і маё жыццё скончылася”. Чалавек жыве далей, і няўдача ў шлюбе зусім не адмяняе яго як асобу. У літаратуры я сустрэў мноства розных метадаў дапамогі такім людзям. Прапаную коратка звярнуць увагу на 7 спосабаў дапамогі ў такой складанай сітуацыі.

***1. Перапрацаваць жаль.*** Жаль – гэта не аднаразовы вопыт, а працэс з фізічнымі, эмацыянальнымі і нават духоўнымі наступствамі. Ён можа быць вельмі балючым, але не з'яўляецца нашым ворагам, бо здольны дапамагчы нам аднавіць раўнавагу пасля разрыву сужэнства. Мы вылечымся ад жалю, калі проста перажывём яго. Варта ўзяць пытанне пад свой кантроль і не вяртацца да балючых успамінаў. Лепш пагаварыць на гэтую тэму з тым, каму вельмі давяраем.

***2. Пасябраваць са сваім гневам.*** Не трэба падсілкоўваць свае перажыванні гневам. Наадварот, няхай ён матывуе нас змяніць жыццё да лепшага. Гнеў – гэта сігнал, што нешта не так і патрабуе ўвагі. Няхай кожны паспрабуе правільна яго інтэрпрэтаваць. Рашэнне заўсёды за намі. Трэба цвяроза ацэньваць сябе і свае эмоцыі, варта паглядзець на сябе творча.

***3. Прабачыць.*** Той, хто здолее прабачыць, становіцца духоўна моцным. Памятайма, што крыўда няволіць нас, перашкаджае знутры. Прабачэнне – гэта сталы выбар чалавека. У такой сітуацыі мы можам адмовіцца ад усіх таксічных пачуццяў і атрымаць магчымасць хутка вярнуцца да нармальнага жыцця.

***4. Прыняць Божую дапамогу.*** Бог любіць нас, Ён заўсёды з намі. Такія складаныя сітуацыі становяцца магчымасцю аднавіць кантакт з Усемагутным. Вера і малітва заўсёды дапамагаюць перажыць самыя цяжкія моманты жыцця.

***5. Размаўляць пра свае праблемы.*** Калі чалавек дзеліцца праблемамі, ён умацоўвае сябе, ідзе далей і будуе новае жыццё. Размова з блізкімі, з духоўнай асобай, з псіхолагам адкрывае нашу душу для вылячэння. Варта пачуць шчырае і канструктыўнае меркаванне адносна сябе.

***6. Дапамагаць іншым.*** Хоць нам самім патрэбна падтрымка, але гатоўнасць дапамагаць іншым можа дапамагчы нам самім. Служэнне – добры метад для аднаўлення раўнавагі. У такой складанай сітуацыі вельмі неабходна выйсці за рамкі ўласных спраў.

***7. Больш смяяцца і клапаціцца пра сябе.*** Смех заўсёды дапамагае, робіць усё змрочнае ярчэйшым. Радасць стымулюе духоўную моц да працы, выдаляе варожасць і гнеў. А без клопату пра сябе мы не выжывем. Кожны шукае свае шляхі і спосабы, каб рэалізаваць гэта.

Усе апісаныя вышэй шляхі пададзены вельмі коратка, але адно можна сказаць напэўна: калі не прымецца рашэнне аб вяртанні да здароўя, значыць, у чалавека няма мужнасці, бо ўсё пачынаецца з гэтага рашэння. З Божай ласкай і дапамогай блізкіх ды спецыялістаў можна перажыць і такія цяжкія моманты жыцця.

# ЯК Я АТРЫМАЎ ТОЕ, АБ ЧЫМ ПРАСІЎ



**Сяргей Раюнец**

Калі я быў яшчэ несямейным чалавекам, прасіў Бога аб сям'і, аб жонцы. Прычым агаворваў канкрэтныя параметры: “Божа, хачу, каб мая жонка была прыгожай”, “каб умела маляваць”, “каб умела іграць на гітары”...

Спачатку спіс уключаў адно-два сціплых жадання, аднак з часам ён разросся да пунктаў пяці. “А што, – думаў я сабе, – калі ўжо прасіць у Таго, хто ўсё можа даць, то навошта сябе штучна стрымліваць. Буду прасіць абшырна. Можа, хаця б часткова рэалізуецца”. І хоць я зараз не памятаю дакладна той спіс, але, наколькі магу меркаваць, аб чым прасіў, тое і атрымаў.

А вось мая будучая жонка так канкрэтна мужа не апісвала. Таму, можна сказаць, атрымала тое, аб чым не прасіла. Канешне, Бог – гэта не супермаркет і не чараўнік, які выконвае жаданні. Варта быць сціплым у сваіх просьбах. Так думалася і мне, асабліва тады, калі не атрымліваў таго, аб чым прасіў ужо на працягу нейкага часу.

Што ж, Бог сапраўды не супермаркет, але я веру, што Ён чуе мае малітвы і, калі захоча, то дасць тое, аб чым прашу. А калі не захоча – то не дасць (да гэтага я таксама быў гатовы, хоць і ў значна меншай ступені).

Час ад часу ўзгадвалася яшчэ адно выказванне: “Бойцеся сваіх жаданняў, бо можаце атрымаць тое, аб чым прасілі”. Аднак я пачаў разважаць: чаму трэба баяцца сваіх жаданняў? Хіба толькі калі гэтае жаданне дрэннае. А мець добрую жонку – гэта добра. Так што баяцца такога жадання дакладна не трэба.

Зараз, пасля 6 ці 7 гадоў разам, магу сказаць: на самой справе я атрымаў нашмат больш, чым прасіў. Бо называў спіс параметраў, а атрымаў цэлага чалавека, асобу, якую надалей працягваю пазнаваць. І гэта патрабуе высілкаў. І гэта цэлы шлях.

Калі прасіў, я абапіраўся на дзве фразы. Першая: “Прасіце – і будзе вам дадзена. Шукайце – і знойдзеце. Стукайце – і адчыняць вам. Бо кожны, хто просіць, атрымлівае; і хто шукае, знаходзіць; і хто стукаецца, таму адчыняюць” (Мц 7, 7–8). І другая: “Просіце і не атрымліваеце, бо блага просіце” (Як 4, 3).

# МАЯ БУДЗЁННАЯ СВЯТАСЦЬ



**Яна Чайко**

Сёння святасць часта блытаюць з дасканаласцю, але дасканалы толькі Бог. Быць святым – значыць проста старацца быць такім, як Хрыстос. Пра гэта няма падручнікаў і правіл, таму чалавек вучыцца святасці самастойна ўсё жыццё.

Я жыву ў рытме вялікага горада. Заўсёды некуды спяшаюся, спазняюся, маю шмат спраў. Знайсці час на малітву ці на св. Імшу на працягу тыдня зазвычай складана. Таму стараюся па дарозе згаварыць Вяночак ці паслухаць казанне дня. Аднак найбольш увагі надаю сваім паводзінам. Менавіта ўласным захаваннем я магу найлепш наследаваць Хрысту.

З чаго складаецца святасць? Напэўна, з любові. Таму ў першую чаргу я дзялюся з тымі, хто не мае. Раней мы з бацькамі прымалі пілігрымаў у свой дом, потым я пачала купляць прадукты для просячых, цяпер пры магчымасці ўдзельнічаю ў дабрачынных акцыях. У апошні час высылаю вязням паштоўкі на святы.

Святасць не можа існаваць без прабачэння. Дараваць некаму – гэта не проста сказаць “прабачаю”, гэта значыць не злавацца і не вінаваціць чалавека. Зусім нядаўна я сутыкнулася са здрадай сяброў. Тады было крыўдна і балюча, а цяпер я ўспамінаю толькі пазітыўныя моманты разам, жадаю ім усяго добрага і, калі спатрэбіцца, не раздумваючы працягну руку дапамогі. І калі мне становіцца цяжка, я бачу перад вачыма Езуса, які любіў і прабачаў нават на крыжы.

Я не ўяўляю святасці без стану асвячальнай ласкі і магчымасці прымаць Езуса. Менавіта таму рэгулярная споведзь з'яўляецца маім прыярытэтам. Споведзь дае мне палёгку і ўнутраную вольнасць. Адчуваю шчырую радасць і дзялюся ёю з навакольнымі.

Адзін ксёндз заўважыў, што святыя заўсёды сустракаюцца: Ян Павел II сустракаўся з Маці Тарэзай, Мельхіёр Фардон сябраваў з Максімільянам Кольбэ, а бл. сёстры назарэтанкі прыехалі ў Навагрудак па запрашэнні біскупа Зыгмунта Лазінскага. Калі мы будзем атачаць сябе людзьмі, якія хочуць быць святымі, то ісці разам па дарозе да святасці будзе лягчэй. Дык атачайма!

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Як часта біскуп павінен змяняць пробашчаў у парафіях?

**grodnensis.by**

*Іерархічны Касцёл выконвае сваю патройную місію ў свеце, арганізуючы сваю дзейнасць паводле норм кананічнага права, якое гарантуе кожнаму члену каталіцкай супольнасці ўсе неабходныя сродкі для збаўлення. Як Святы Айцец з'яўляецца абсалютным суверэнам у свеце, улада якога абмежавана толькі Божым законам, падобна і дыяцэзіяльны біскуп на тэрыторыі даверанай яму дыяцэзіі рэалізуе ўласную, звычайную і непасрэдную ўладу, будучы абмежаваным выключна кананічным правам альбо дэкрэтам Святога Айца (параўн. кан. 381). Пробашч жа выконвае сваё пастырскае служэнне пад кіраўніцтвам біскупа дыяцэзіі (параўн. кан. 519). Менавіта біскуп мае права незалежна ні ад каго прызначаць пробашча той ці іншай парафіі (параўн. кан. 523).*

*Канон 522 абавязвае біскупа прызначыць пробашча на неакрэслены, неабмежаваны час, таму што пробашч, паводле гэтага канона, павінен мець стабільнасць на пасадзе. Толькі дэкрэт Канферэнцыі Біскупаў (зацверджаны Святым Айцом) дае біскупу дыяцэзіі права – ні ў якім выпадку не абавязак – прызначыць пробашча ў парафію на канкрэтна акрэслены час.*

*Прызначаны на парафію пробашч беспярэшкодна выконвае сваё пастырскае служэнне для духоўнай карысці вернікаў, пакуль яму не споўніцца 75 гадоў. Дасягнуўшы гэтага ўзросту, ён мае абавязак звярнуцца да біскупа з прашэннем аб адстаўцы (параўн. кан. 538). Біскуп мае права або прыняць адстаўку, або прасіць пробашча і далей выконваць сваё служэнне ў парафіі.*

*Выключна біскуп дыяцэзіі мае права ацэньваць якасць і карысць для вернікаў пастырскага служэння пробашча ў парафіі (параўн. кан. 1740, 1742, 1748). Кіруючыся ўзгаданай ацэнкай, біскуп мае права вызваліць пробашча ад абавязкаў у парафіі для даручэння яму іншых абавязкаў. Маючы на ўвазе стабільнасць пасады пробашча ў канкрэтнай парафіі, кананічнае права дакладна акрэслівае працэдуру на той выпадак, калі біскуп дыяцэзіі захоча змяніць пробашча ў парафіі.*

# "ПАНЕ, НАВУЧЫ НАС МАЛІЦЦА" – ПРА ВОБРАЗ БОГА І ЗМЕНЫ Ў МАЛІТВЕ "ОЙЧА НАШ"


pixabay.com

Кацярына Паўлоўская

**"Ойча наш" належыць да асноўных хрысціянскіх малітваў. Зусім нядаўна, 6 кастрычніка, у Літургіі слова можна было пачуць фрагмент Евангелля паводле св. Лукі, у якім адзін з вучняў звярнуўся да Езуса са словамі: "Пане, навучы нас маліцца". У адказ на гэтую просьбу Пан Езус прамовіў узгаданую малітву. У ёй Бог прапануе адносіцца да Яго як да Айца, Таты. Ці такі вобраз Усемагутнага маем у сваім розуме і сэрцы?**

Характарнашыхзваротаўда Бога непасрэдна звязаны з тым, як мы сабе ўяўляем Таго, да каго звяртаемся. Ці Бог для нас Тата, які клапоціцца, бачыць патрэбы, ці Айцец, які хоча пакараць за непаслухмянасць?

Пытанне пра бачанне Бога чалавекам часта паўстае ў кантэксце малітвы. Кс. Аляксандр Жарнасек, прапаведнік і рэкалекцыяніст, узгадвае, што тэма вобраза Бога ў веры ад нейкага часу стала папулярнай. Прычыны існавання гэтай праблематыкі святар бачыць у тым, што вобраз Бога мы будуем, абапіраючыся на людскія прыклады, у тым ліку на досвед з дзяцінства.

*"Падчас майго навучання ў Польшчы ў малітоўных ці студэнцкіх групах пастаянна паўставала праблема вобраза Бога, бо пасвойму моладзь была параненая, асабліва дзяўчаты. Калі чалавек «паранены», то на Бога Ён глядзіць з перспектывы свайго жыцця. Найбольш у таце маюць патрэбу дзяўчыны. Хлопцы таксама, канешне, але найбольш балюча адсутнасць таты перажываюць менавіта дзяўчаты. І калі ён быў алкаголікам ці тыранам, то спрацоўваюць псіхалагічныя ўстаноўкі – і Бог успрымаецца так жа. Выходзіць, што праблема вобраза Бога ўзнікае тады, калі людзі паходзяць з дысфункцыйных сем'яў альбо маюць балючую гісторыю"*, – лічыць кс. Аляксандр.

На вобраз Бога ў перакладзе малітвы "Ойча наш" звярнуў увагу папа Францішак. Святы Айцец прапанаваў фармулёўку *"І не ўводзь нас у спакусу"* змяніць на *"Не дай нам падацца спакусе"*. 30 студзеня мінулага года ў Італіі выйшаў Імшал з абноўленай малітвай.

Новым зменены выраз назваць нельга. *"І не ўводзь нас у спакусу"* з'яўляецца правільным перакладам грэчаскага слова "peirasmos". У той жа час не адзіным, як гэта часта бывае з тлумачэннем розных выразаў у Бібліі. Таксама ў трэцім выданні г. зв. Біблії Тысячагоддзя з 1980 года і ў далейшых выданнях гэтага перакладу чытаем: *"nie dopuść, abyśmy ulegli pokusie"*. Акрамя таго, у польскім Лекцыянарыі – адкуль бярэцца Літургія слова для св. Імшы – з 1991 года ў Евангеллі паводле св. Мацвея знаходзіцца ўзгаданая вышэй фармулёўка.

Змену папа Францішак тлумачыць, адносячыся да вобраза Бога як клапатлівага Айца: *"Не дай мне паддацца спакусе, таму што гэта я паддаюся ёй, а не Бог вядзе мяне ў спакусу, а потым назірае, як я падаю. Айцец так не робіць, айцец дапамагае табе адразу ўстаць"*.

Кс. Аляксандр Жарнасек звяртае ўвагу на тое, што ў Біблії мы сустракаем моманты, калі Бог дапускае спакусу: *"Ёсць паняцце граху: калі чалавек грашыць і дапускае дзеянне злога, сам паддаецца на спакусы. А ёсць такі момант, калі Гасподзь дазваляе злому выпрабоўваць нас для ўмацавання веры. Гэта асобная тэма. Пісанне кажа, што Бог не выпрабоўвае нас звыш нашых сіл, але ўсё ж выпрабоўвае. І апостал Пётр будзе пра гэта пісаць"*.

На думку святара, Святы Айцец тэалагічна правільна перадаў сэнс малітвы "Ойча наш": *"У словах мы заўсёды молімся «Не ўводзь нас у спакусу», але маецца на ўвазе, што не Бог нас уводзіць у спакусу, а мы самі ўваходзім"*.

У той жа час рэкалекцыяніст звяртае ўвагу на практычны бок змен, таксама і ў беларускім кантэксце: *"Гэта пытанне нейкай ужо традыцыі, якая ёсць у Касцёле на працягу стагоддзяў, традыцыі літургічнай. Напрыклад, у нас ніяк не могуць прывыкнуць маліцца па-беларуску, бо ўвесь час маліліся па-польску, а тут трэба будзе «Ойча наш» памяняць. Ці гэта аж такая балючая тэма, што патрабуе такіх вось рэсурсаў? Думаю, што не"*.

У кантэксце праблематыкі параненасці ўведзеныя пакуль яшчэ ў некалькіх краінах змены могуць дапамагчы ў будаванні сувязі чалавека з Богам. Важна, каб тэксты малітваў спрычыняліся да адкрывання Стварцы як міласэрнага і любячага Айца, Таты.

Датычыць гэта не толькі асноўных і найбольш вядомых малітваў, але і рэгіянальных, характэрных для асобых краін. Адваротным прыкладам можа быць папулярная ў польскім і ў польскамоўнай частцы беларускага Касцёла песня "Сардэчная Маці". У ёй спяваем такі радок: *"Калі Айцец разгневаны сячэ"*. Такі змест і тэалагічна, і духоўна з'яўляецца няправільным.

На пытанне, наколькі такія тэксты ўплываюць на будаванне вобраза Бога, кс. Аляксандр адказвае так: *"Цяжка мне сказаць, ці аж так уплываюць на наша бачанне Бога песні. Магчыма, людзі параненыя звяртаюць увагу. Можа, датчыкі ўключаюцца дадатковыя. Я прошта задаваў бы пытанне пра логіку гэтых песень, пра адэкватнасць і сэнс слоў, якія спяваем. Нават пытанне не ў тым, ці ўзбагачаюць яны ці нішчаць нашу духоўнасць, а ў тым, ці ўвогуле ёсць сэнс у гэтых словах. Ну, і пытанняў будзе шмат"*.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

*24 кастрычніка – XXX Звычайная нядзеля*
*Мк 10, 46b–52*

Калі Езус выходзіў з Ерыхона са сваімі вучнямі і з вялікім натоўпам, Бартымэй, сын Тымэя, сляпы жабрак, сядзеў каля дарогі. Пачуўшы, што гэта Езус Назаранін, ён пачаў крычаць: "Езусе, Сыне Давіда, змілуйся нада мною". Многія загадвалі яму замоўкнуць, але ён яшчэ мацней крычаў: "Сыне Давіда, змілуйся нада мною". Езус спыніўся і сказаў: "Паклічце яго". І паклікалі сляпога, кажучы яму: "Смялей, уставай, Ён кліча цябе". Скінуўшы плашч, той падскочыў і падышоў да Езуса. І адказваючы яму, Езус сказаў: "Што хочаш, каб Я зрабіў табе?". Сляпы сказаў Яму: "Настаўнік, каб я зноў бачыў". Езус сказаў яму: "Ідзі, вера твая вылечыла цябе". І той адразу пачаў бачыць і пайшоў за Езусам па дарозе.

### Рабіць дабро, пазбягаць зла

*У свеце ёсць шмат няшчасных людзей, пазбаўленых такога вялікага дару, як зрок. Яны не могуць убачыць твараў любімых людзей, прыгажосці навакольнай прыроды, усходу або заходу сонца. Сляпыя таксама падвяргаюцца шматлікім небяспекам: не бачаць, як едуць машыны, калі яны пераходзяць вуліцу, як набліжаюцца варожа настроеныя людзі, як выяўляюцца на скуры сімптомы хваробы, не бачаць мімікі людзей, якія з імі размаўляюць.*

*Таму мы можам уявіць радасць Бартымэя ў той момант, калі да яго вярнуўся зрок. Езус адкрыў яму ўвесь цудоўны свет і людзей, якія былі побач.*

*Акрамя фізічнай слепаты, існуе таксама слепата маральная. Вочы свайго сэрца і душы мы называем сумленнем. Кожны чалавек нараджаецца, адораны Богам гэтым бясцэнным дарам, які мусіць развіваць і выхоўваць у святле запаведзей і правіл Евангелля. Добра сфарміраванае сумленне дазваляе нам адрозніваць дабро ад зла. Заклікае рабіць дабро і пазбягаць зла.*

*Як і для Бартымэя, жыццё не шкадуе для нас няшчасцяў і прыніжэнняў. Столькі разоў мы адчуваем сябе беднымі і маральна сляпымі, прыніжанымі брудам і ўбоствам сваіх грахоў. Мы павінны тады ўсклікаць: "Езусе, Сыне Давіда, змілуйся над намі!". Просьма Езуса вярнуць зрок нашай душы, каб не быць рабамі матэрыяльных даброт, камфорту, грошай, каб у нас было добра сфарміраванае сумленне.*

*Пане Езу Хрысце, вылечы мяне ад духоўнага ўбоства, вярні зрок сумленню і ўчыні, каб я стаў духоўна відушчым!*

*31 кастрычніка – XXXI Звычайная нядзеля*
*Мк 12, 28b–34*

Адзін кніжнік падышоў да Езуса і спытаўся ў Яго: "Якая запаведзь першая з усіх?". Езус адказаў: "Першая такая: «Слухай, Ізраэль, Пан Бог наш – Пан адзіны; любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім розумам тваім, і ўсёй моцаю тваёй». Другая: «Любі бліжняга твайго, як самога сябе». Няма іншай запаведзі, большай за гэтыя". І сказаў Яму кніжнік: "Добра, Настаўнік, Ты праўду сказаў, што ёсць адзін і няма іншага, апрача Яго. Любіць Яго ўсім сэрцам і ўсім розумам, і ўсёю душою, і ўсёю моцаю; і любіць бліжняга, як самога сябе, – гэта больш за ўсе ахвяры і ўсеспаленні". Езус, убачыўшы, што той разумна адказвае, сказаў яму: "Недалёка ты ад Валадарства Божага". І ніхто ўжо больш не адважваўся пытацца ў Яго.

### Любіць Бога і бліжніх

*Сёння, як ні дзіўна, хоць кожны чалавек прагне любові, прагне быць любімым, складана гаварыць пра любоў. Многія разумеюць яе не ў адпаведнасці з Божым планам, а па-свойму, часта даючы памылковыя ці нават скажоныя азначэнні і тлумачэнні любові. Часта бывае так, што многія сучасныя людзі памылкова называюць любоўю свой эгаізм, нарцыстычную самаўлюбёнасць, жаданне задавальняць і дасягаць толькі ўласныя мэты, ігнаруючы Бога і іншых людзей.*

*Любоў да Бога і бліжняга – гэта не абстракцыя ці казка для паслухмяных дзяцей, а рэаліі паўсядзённага жыцця, справы вялікія, і малыя, урачыстыя і будзённыя. Хтосьці слушна напісаў: "Чалавек, які не мае ў сабе дастаткова любові да такога ж чалавека, як ён, не можа любіць Бога, чыя дабрыня і любоў пераўзыходзяць наша пазнанне. Чалавек, які любіць Бога, штодня расце ў братэрскай любові, таму любоў да братоў – гэта мера нашай любові да Хрыста".*

*Самае галоўнае, што мы можам у жыцці даведацца, – факт, што Бог ніколі не перастане нас любіць. Якім бы ні было наша жыццё да гэтага часу, Бог усё роўна любіць нас! Нават калі аддаліліся ад Яго, Ён чакае нашага вяртання. Езус дае нам узор любові "ўсёй сваёю істотай", заклікаючы і запрашаючы кожнага жыць паводле запаведзі любові да Бога і бліжняга.*

*Пане Езу Хрысце, дапамажы мне любіць Цябе ўсім сваім сэрцам, а бліжніх – як самога сябе!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ЮЗАФУ СТАНЕЎСКАМУ

*з нагоды намінацыі на арцыбіскупа Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае Вас асаблівымі ласкамі, Езус Хрыстус будзе Прыкладам і Праваднікам на ўсіх шляхах, Святы Дух апраменьвае сваім святлом і надзяляе надзвычайнай харызмай, а ў сэрцы Найсвяцейшай Маці заўсёды для Вас будзе суцяшэнне як для Яе любімага сына.*

*Апастальства "Маргарытка" Гродзенскай дыяцэзіі*

### ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ АРЦЫБІСКУПУ ТАДЭВУШУ КАНДРУСЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены прамянямі Божай міласэрнасці і напоўнены Яго любоўю.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, стойкасці, моцы, добрых людзей побач, нязгаснага запалу да працы і Божага блаславення на кожны дзень жыцця.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ БЕЗЛЯПОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх далонях, блаславіляе кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляе шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці нястомна мае ў сваёй апецы, каб Вы ў добрым здароўі заўсёды маглі выконваць Божую волю.*

*Удзячныя вернікі капліцы Вердамічы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЦЭЗАРЫЮ МІХУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Юзафа, а таксама Божага блаславення на кожны дзень.*

*З малітвай парафіяне са Скідзеля*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ

*з нагоды імянін жадаем усяго найлепшага. Няхай усемагутны Бог ахінае Вас ласкамі і блаславеннем кожны дзень, Святы Дух асвячае святарскі шлях і ўдзяляе свае дары, Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добразычлівых людзей побач, радасці і шчодрага плёну на ніве Пана.*

*Парафіяне капліцы Вінцукі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЦЭЗАРЫЮ МІХУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаю сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем на доўгія гады і дадае сіл, каб надалей ісці Яго дарогай. Няхай Хрыстос, якому Вы даверыліся, будзе побач, умацоўвае і аберагае, а Маці Божая заўсёды мае Вас ў сваёй апецы.*

*Спадарыня Вераніка з парафіі св. Юзафа Рамесніка ў Скідзелі*

### ШАНОЎНАМУ СТАРШЫНІ СПАДАРУ ТАДЭВУШУ ЖУКОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем шчаслівых гадоў жыцця, поспехаў у працы і штодзённым жыцці, а таксама здзяйснення мар. Няхай Маці Божая і святы заступнік выпрошваюць для Цябе дары супакою, радасці і ўсяго добрага на кожны дзень. Шчасці Божа!*

*З малітвай працаўнікі гродзенскай катэдры і Пелагея*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ БЕЗЛЯПОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: добрага здароўя, аптымізму, нязгаснага запалу ў рэалізацыі планаў, душэўнага супакою і сапраўднай радасці ад выканання святарскай паслугі. Жадаем, каб кожны дзень быў напоўнены верай, надзеяй, любоўю і дабрынёй. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і блаславеннем, а Найсвяцейшая Маці заўсёды мае ў сваёй апецы.*

*Вернікі парафіі Мсцібава*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ВЕСЛАЎ ДАМБРОЎСКІ!

*З нагоды дня нараджэння перасылаем Вам самыя шчырыя пажаданні. Няхай святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам, Святы Дух асвячае сваім святлом кожны дзень Вашай душпастырскай паслугі, а Маці Божая клапатліва атуляе сваёй апекай! Жадаем доўгага жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, радасных і шчаслівых дзён і толькі добразычлівых людзей побач. Мы дзякуем Пану Богу за гады, праведзенные з Вамі, і заўсёды з удзячнасцю памятаем пра Вас у малітвах ды сэрцах і любім!*

*З павагай і ўдзячнасцю Касцёльны камітэт і вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Наваельні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ

*з нагоды імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і блаславёны, побач будуць зычлівыя людзі, Божыя ласкі няхай сыходзяць на Вас няспынна, а святы заступнік мае ў сваёй апецы. Чэрпайце радасць з кожнай хвіліны, цешцеся сваёй паслугай і заўсёды ўсміхайцеся сабе і людзям навокал. Шчасці Божа!*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ АНТОНІЮ ПАЖЭЦКАМУ

*з нагоды 20-ай гадавіны святарства жадаем моцнага здароўя, Божага бласаўлення, апекі Маці Божай. Няхай заўсёды свеціць сонца, а з вуснаў не сыходзіць усмешка.*

*Францішканскі ордэн свецкіх, Рыцарства Беззаганнай і адарацыйнае кола*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ТАДЭВУШУ КРЫШТОПІКУ

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, сілы, стойкасці і нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова. Няхай кожны дзень будзе напоўнены любоўю Усемагутнага, а выконваемая паслуга прыносіць радасць і блаславёны плён. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя нястомна Вамі апекуецца.*

*Парафіяне капліцы Божай Міласэрнасці ў аг. Свіслач*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ДЗМІТРЫЮ НЕСЦЕРУ

*з нагоды імянін сардэчна жадаем моцнага здароўя, Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа і добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Пан Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і супакоем, напаўняе радасцю, а святы заступнік заўсёды абараняе, каб Вы шчасліва служылі Богу і парафіянам.*

*Касцёльны камітэт, вернікі парафіі Геранёны і капліцы Сураж*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

10 кастрычніка св. Імшой у фарным касцёле Перамянення Пана ў Навагрудку адзначылі 400-годдзе гістарычнай бітвы пад Хоцінам (1621 г.), якая мела вялізнае значэнне для народаў усёй Еўропы.

У гонар бітвы пад Хоцінам у навагрудскім касцёле ўсталявана памятная пліта-кенатаф – не толькі ўнікальны помнік мастацтва барока, але і сведчанне супольнага гістарычнага лёсу беларусаў з палякамі, літоўцамі і ўкраінцамі. Гэта высечаны ў камені напамін агульнай гісторыі народаў, якія баранілі Еўропу ад азіяцкіх заваёўнікаў з Усходу.

"Нашы продкі абаранілі веру, і наша заданне таксама захаваць і перадаць яе нашчадкам", – падкрэсліў біскуп Юрый Касабуцкі падчас урачыстасці.




**рэлігійны часопіс**

Здараецца, што падчас адгаворвання Ружанца нам цяжка засяродзіцца на разважанні таямніц і мы проста бяздумна паўтараем малітву. Ёсць надзейны спосаб сапраўды ўважліва маліцца на ружанцы і пражываць біблійныя падзеі разам з нашай нябеснай Маці.

Сутнасць такога спосабу ў тым, што ў кожнай малітве "Вітай, Марыя…" пасля слова "Езус" мы дадаём невялікае разважанне, суадносная з ружанцовай таямніцай. Ідэя бярэ пачатак ад практыкі ружанцовай малітвы св. Яна Паўла ІІ.

Адмысловыя малітоўныя дадаткі да ўсіх таямніц Святога Ружанца можна знайсці ў друкаваным часопісе "Ave-Maria" (№ 10 (271) 2017) або на анлайн-старонцы часопіса (https://ave-maria.by).




**беларуская рэдакцыя**

Санктуарый у Фаціме стане больш экалагічным: там уводзяць шэраг экалагічных інвестыцый у межах праекту "Laudato si´", якія адначасова накіраваны на папулярызацыю зместу аднайменнай энцыклікі, прысвечанай клопату пра планету.

Экалагічныя праекты тычацца, між іншым, выкарыстання электрычнасці з аднаўляльных крыніц энергіі, перапрацоўкі адходаў і пашырэння "зялёнай" тэрыторыі. Мерапрыемствы будуць рэалізоўвацца на працягу бліжэйшых сямі гадоў і з'яўляюцца "адказам на прароцкі крык Касцёла" пра памылкі чалавецтва ў сферы аховы навакольнага асяроддзя.

На дадзены момант ужо праведзена замена 50% сістэмы асвятлення.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У Лідзе ў мікрараёне Паўднёвы біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў зямлю пад будаўніцтва новага касцёла, крыж і капліцу, якая будзе часовым месцам малітвы вернікаў новай парафіі св. Юзафа і бл. сясцёр мучаніц з Навагрудка.

Хоць парафія стаіць толькі на пачатку свайго шляху (з 2017 года), яна ўжо вельмі энергічная. Вернікі разам з пробашчам парафіі кс. доктарам Віталіем Сідоркам неаднаразова збіраліся на суботнікі; тут дзейнічае дзіцячы і дарослы хор; шмат парафіян аказвае дапамогу ў арганізацыйных пытаннях.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997;** рэгістр. **№1085;** выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3977; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.